Гродна
№2 (460),
15 студзеня 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Разам пракладваем дарогі надзеі






**XXXIX Еўрапейская сустрэча моладзі, арганізаваная экуменічнай супольнасцю Тэзэ, адбылася ў Рызе (Латвія). Яе тэмай было далучэнне маладога пакалення да справы супакою і салідарнасці ў свеце. На сумесную малітву 28 снежня – 1 студзеня сабралася каля 15-ці тысяч асоб з Еўропы і іншых кантынентаў. У іх ліку 250 чалавек з Беларусі, 100 – з Гродзенскай дыяцэзіі.**

працяг на с. 4

## Каляндар падзей

*15 студзеня*
*Сусветны дзень мігранта і бежанца.*

*18–25 студзеня*
*Тыдзень паўсюднай малітвы аб еднасці хрысціян. Заахвочваем маліцца аб адзінстве ўсіх вызнаўцаў Хрыста.*

*24 студзеня*
*Успамін св. Францішка Сальскага, заступніка журналістаў і каталіцкай прэсы.*

*25 студзеня*
*Свята Навяртання св. апостала Паўла.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

*Студзень*
*Аб святле Святога Духа для ўдзельнікаў, аніматараў і кіраўнікоў рэлігійных таварыстваў і рухаў. Аб дары плённай падрыхтоўкі да Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

*"Голас Евангелля"*
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

*"Сімвал веры"*
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – 7 лютага 19.45, паўтор – 8 лютага ў 9.00.***

*Навіны з Ватыкана па-беларуску*
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"Экуменізм – не прадукт касцёльнай дыпламатыі". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**II ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Ян 1, 29–34**

Ян убачыў Езуса, які ішоў да яго, і сказаў: “Вось Ягнё Божае, якое бярэ на сябе грэх свету. Гэта той, пра якога я казаў: «Пасля мяне ідзе Муж, які апярэдзіў мяне, бо Ён быў раней за мяне». І я не ведаў Яго, але для таго прыйшоў я хрысціць вадою, каб Ён аб’явіўся Ізраэлю”. І сведчыў Ян, кажучы: “Я бачыў Духа, які сыходзіў з неба, як голуб, і спачываў на Ім. Я не ведаў Яго, але той, хто паслаў мяне хрысціць вадою, сказаў мне: «Над кім убачыш Духа, які сыходзіць і застаецца на Ім, той ёсць тым, хто хрысціць Духам Святым». І я бачыў і засведчыў, што Ён Сын Божы”.

### ПАЙСЦІ ДАРОГАЙ ЕЗУСА

Да Яна Хрысціцеля ішлі людзі са сваім багажом досведу, часта паглыбленыя ў цяжкія грахі, прыніжаныя імі. А цяпер? Прыходзім у Касцёл дасканалыя, бязгрэшныя, верныя? Безумоўна, не! Кожны мае ўласную гісторыю жыцця са сваімі праблемамі, клопатамі, падзеннямі.

Стаўшы блізкім чалавеку, Пан і Збаўца запрашае людзей прайсці такі ж шлях, які Ён прайшоў на зямлі. Прымаючы хрост у Касцёле, мы распачынаем гэтую дарогу з Хрыстом. Можна сказаць, увaходзім у Божую рэчаіснасць. Праз такую блізкасць Езус нібы прамаўляе: “Я ўваходжу ў тваю гісторыю жыцця, чалавек, у тваё пазначанае грахом існаванне. Не для таго, каб асудзіць і высмеяць, але каб падняць цябе і вывесці з граху”. І кожны вольны выбіраць, ці пойдзе Яго дарогай.

Дазволім жа Езусу акунуцца ў нашае жыццё – такое, якое яно ёсць: з радасцямі і смуткамі, эйфарыяй і падзеннямі – так, як Ён акунуўся ў раку Ярдан.

**III ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Мц 4, 12–23**

Калі Езус пачуў, што Яна зняволілі, адышоў у Галілею. І, пакінуўшы Назарэт, прыйшоў і пасяліўся ў Кафарнауме прыморскім, у межах Забулона і Нэфталія. Так збылося сказанае прарокам Ісаям, які кажа: “Зямля Забулонава і зямля Нэфталіева, на шляху марскім, за Ярданам, Галілея язычнікаў, народ, які сядзеў у цемры, убачыў святло вялікае, над жыхарамі краіны смяротнага ценю заззяла святло”. З таго часу Езус пачаў прапаведаваць і казаць: “Пакайцеся, бо наблізілася Валадарства Нябеснае”.

Калі Езус праходзіў каля Галілейскага мора, Ён убачыў двух братоў: Сымона, якога называлі Пятром, і ягонага брата Андрэя, якія закідвалі сеткі ў мора, бо яны былі рыбакамі. І сказаў ім: “Ідзіце за Мной, і Я зраблю вас рыбакамі людзей”. Яны ж адразу, пакінуўшы сеткі, пайшлі за Ім. Калі адтуль пайшоў далей, убачыў іншых двух братоў: Якуба Зэбэдэевага і Яна, брата ягонага, якія ў чоўне з бацькам іхнім Зэбэдэем ладзілі свае сеткі, і паклікаў іх. А яны адразу пакінулі човен і бацьку свайго і пайшлі за Ім.

Езус хадзіў па ўсёй Галілеі, навучаючы ў сінагогах іхніх і абвяшчаючы Евангелле Валадарства. Ён лячыў усялякую хваробу і ўсялякую немач у людзей.

### БУДАВАЦЬ БОЖАЕ ВАЛАДАРСТВА

Ля вытокаў сваёй публічнай дзейнасці, на пачатку абвяшчэння Добрай Навіны аб збаўленні Хрыстос скіраваў да людзей пасланне: “Пакайцеся…”. Гэта своеасаблівая праграма новай рэчаіснасці – Божага Валадарства. Яго ўдзельнікам можа стаць той, хто навернецца і пераменіць сваё жыццё.

Езус добра ведаў вартасць слоў, якія прамаўляў. Разумеў, што Валадарства, якое Ён прыносіць свету, не можа будавацца на былым стане рэчаў, дзе мёртвая літара закона, бяздушнасць, жаданне дагадзіць любой цаной замянілі любоў, веру, адказнасць і спачуванне. Таму заахвочваў людзей упарадкаваць свае жыццё, думкі і дзеянні. Падказваў, што трэба адкінуць недарэчныя жаданні і прыхільнасці, навучыцца любіць і аддаваць, не чакаючы нічога ўзамен.

Валадарства Пана ўжо сярод нас, у межах дасяжнасці. Каб да яго дабрацца, не патрэбны ні пашпарт, ні віза. Неабходна толькі адно – навяртанне, уласнае намаганне, якое павінна стаць рэальнасцю ў жыцці.

*Кс. Юрый Марціновіч*



## Слова рэдактара

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Каб мы былі адно

*Пачатак каляндарнага года з’яўляецца добрай нагодай для малітвы ў інтэнцыі супакою. Яго адкрывае Сусветны дзень міру, падчас якога асаблівым чынам молімся аб згодзе на ўсёй зямлі. Асабліва цяпер, калі свету пагражаюць ганебныя акты варварства і гінуць нявінныя людзі, яшчэ больш выразна ўсведамляем, як моцна грамадства патрабуе малітвы аб сапраўднай любові, якая пераадольвае ўсе падзелы.*

На працягу некалькіх дзясяткаў гадоў месяц студзень з’яўляецца для хрысціян часам экуменічнай малітвы. Гэта асаблівым чынам адпавядае пажаданням Пана Езуса, які ў дзень перад Мукай прасіў Айца, каб усе Яго паслядоўнікі былі адно (параўн. Ян 17, 21). Аднак адзінства сярод хрысціянскіх супольнасцей сёння ўсё яшчэ не хапае. Жаданне еднасці, да якой Хрыстос заклікаў Апосталаў, дагэтуль застаецца актуальным. Пацвярджэннем гэтага з’яўляюцца даўнія рознагалоссі паміж хрысціянамі розных канфесій. Таму думкі сёння засяроджаны, перш за ўсё, на падзелах, якія існуюць паміж хрысціянскімі Цэрквамі, і на дзеяннях, накіраваных на вяртанне страчанай еднасці.

Спрадвеку ворагамі адзінства былі пыха і эгаізм, прадузятасць, нежаданне прабачыць і паяднацца. Мы вельмі часта забываемся аб тым, што паяднанне стане магчымым толькі тады, калі перастанем думаць толькі пра сябе: “я”, “маё”, “для мяне”. Трэба паставіць на першае месца іншыя каштоўнасці: “Бог”, “супольнасць”, “любоў”. Тады адзінства будзе ў сэрцах, і мы станем шанаваць адно ў Езусе.

Дух Евангелля і навучання Касцёла – гэта воклік, нават крык, каб мы былі адно. Св. Ян Павел II навучаў, што хрысціянскія супольнасці будуюць новы, лепшы свет, таму што ўсе людзі – дзеці таго ж Айца і браты ў Хрысце (параўн. “Redemptoris missio”, 43). З гэтай думкай становімся перад Богам, каб глыбей усвядоміць значэнне экуменічных намаганняў, якія каталіцкі Касцёл разам з Цэрквамі іншых канфесій у свеце (у тым ліку і ў нашай краіне) прыкладвае, клапоцячыся аб вяртанні да першапачатковай супольнасці вучняў Езуса.

Такім чынам, трэба, каб усе пачалі маліцца разам. Тады мы наблізімся да мэты – паяднання. А доўгая гісторыя хрысціян, забруджаная шматлікімі расколамі, пачне нібы пісацца занава, імкнучыся да Крыніцы еднасці, якой з’яўляецца Езус Хрыстус – “той самы ўчора, і сёння, і навекі!” (Гбр 13, 8).

**Дарагія Чытачы!**

Спадзяюся, кожны з нас лічыць немагчымым дапусціць, каб заклік Збаўцы – “каб усе былі адно” – застаўся без адказу. Таму заахвочваю Вас маліцца аб еднасці і любові, каб, пераадольваючы людскую слабасць, у сэрцах здзяйсняўся цуд з’яднання з Богам. Няхай наша пастава веры спрыяе будаванню еднасці ў супольнасці Касцёла, а таксама ўзаемнай адказнасці, якая грунтуецца на ўсведамленні таго, што Хрыстос як наш Адкупіцель ахвяраваў сябе на крыжы за нас усіх.




# Нанова адкрыць Фаціму

**Бягучы год з’яўляецца важным годам да паўсюднага Касцёла. Сёлета прыпадае сотая гадавіна аб’яўленняў Найсвяцейшай Панны Марыі ў Фаціме. Маці Божая прыйшла да траіх дзяцей, каб праз іх папярэдзіць чалавецтва. “Грахі свету занадта вялікія. Калі людзі хочуць дасягнуць адзінства і міру, павінны перастаць абражаць Бога і пачаць прасіць прабачэння за свае правіны”. Пасланне, якое перадалі 10-гадовая Луцыя і яе дваюрадныя 7-гадовая сястра Гіяцынта і 9-гадовы брат Францішак, пабуджае чалавецтва да навяртання, каб такім чынам абараніць свет ад катастрофы, а душы грэшнікаў – ад вечнага асуджэння.**

У аб’яўленнях Маці Божай у Фаціме атрымліваем абяцанне перамогі Сэрца Езуса і Беззаганнага Сэрца Марыі над злом. Але для гэтага абавязкова неабходна супрацоўнічаць з Імі. Таму будучыня кожнага і ўсяго свету – у Найсвяцейшых Сэрцах і нашых руках!

**Фацімскі духоўны запавет, актуальны і праз 100 гадоў пасля аб’яўленняў Маці Божай:**

- **Пашыраць і паглыбляць пашану да Марыі і Яе Беззаганнага Сэрца,** якое мацней за ўсё злучана з Сэрцам Езуса. “Хрыстос прагне, каб Я была больш вядомай і любімай”, – падкрэсліла Найсвяцейшая Панна ў Фаціме.

- **Перажываць першыя суботы месяца на хвалу Беззаганнага Сэрца Маці Божай.** Таму, хто на працягу 5-ці месяцаў у першую суботу будзе прымаць св. Камунію, памоліцца адной часткай Ружанца і цягам 15-ці хвілін паразважае над адной з ружанцовых таямніц у еднасці з Марыяй, Яна абяцае: “Гэтыя душы будуць адораны асаблівай міласцю: як кветкі перад тронам Божым іх пастаўлю”. “Тым, хто прыме гэтае набажэнства, абяцаю збаўленне: прыбуду да іх у гадзіну смерці з ласкай, якая будзе патрэбна для спасціжэння вечнага шчасця”.

- **Як мага часцей маліцца на ружанцы.** Калі існуе такая магчымасць, то штодзённа разам з сям’ёй. Гэтую просьбу Марыя выражала амаль у кожнай сустрэчы з візіянерамі: “Я Маці Божая Ружанцовая”. Заахвочвала рэгулярна прыступаць да сакраманту пакаяння, каб заўсёды быць у стане асвячальнай ласкі, а таксама як мага часцей удзельнічаць у Эўхарыстыі, чытаць Святое Пісанне і разважаць над ім.

- **Маліцца, ахвяраваць і пакутаваць за ўласныя грахі, а таксама ў інтэнцыі навяртання грэшнікаў.** Свет хуткаплынна апускаецца ў цемру зла: Бога зневажаюць, Яго законы штодзённа парушаюцца. Неабходна пакаяцца і перапрасіць Усемагутнага і Маці Божую. “Ахвяруйцеся за грэшнікаў і паўтарайце часта, асабліва калі будзеце зносіць цярпенні, наступныя словы: «О Езу, раблю гэта з любові да Цябе, дзеля навяртання грэшнікаў і як перапрашэнне за грахі, учыненыя супраць Беззаганнага Сэрца Марыі»”.

- **Аддаць сябе апецы Найсвяцейшай Маці.** Яе Беззаганнае Сэрца прагне быць прытулкам для ўсіх, асабліва для пакутуючых. “Калі людзі не навернуцца, Бог спашле пакаранне, якога яшчэ не бачыў свет”, але “ўрэшце Маё Беззаганнае Сэрца затрыумфуе”.

Аб’яўленні Марыі ў 1917 годзе дагэтуль маюць вялікае значэнне для свету. Пасля прарочых слоў Маці Божай адбыліся такія падзеі, як падзенне камунізму без кровапраліцця, цудоўнае ацаленне жыцця св. Яна Паўла II падчас пакушэння, вызваленне многіх народаў, спыненне рэлігійнага праследавання, вяртанне Касцёла ў краіны, з якіх быў выдалены.

Аднак да паўсюднага супакою, як і да прызнання Божага закону ў грамадскім жыцці, яшчэ вельмі далёка.

Згодна з новымі знакамі часу, зварот Найсвяцейшай Маці павінен перадавацца з пакалення ў пакаленне. Прыслухоўваючыся да яго, мусім усвядоміць, што гэта сам Бог перасцерагае людзей праз Каралеву Супакою, якая амаль 100 гадоў таму аб’явілася ў Фаціме. Усемагутны ўсё яшчэ чакае з’яўлення пакалення, якое ўважліва ўслухаецца ў фацімскае пасланне і захоча зрабіць “усё для Марыі”.

**Але недастаткова прысвяціць Найсвяцейшай Панне асобныя краіны. У глыбіні сэрца кожны чалавек павінен даручыць сябе Ёй. У бягучым годзе на старонках газеты прыгадаем, што фацімскае пасланне для ўсіх нас з’яўляецца перасцярогай і заклікам Маці Божай да навяртання. Знойдзем жа еднасць і супакой…**

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Той, хто задаваў рытм і тон жыццю



*Халодны зімовы вечар… Старыя пабернардынскія могілкі… Святар запальвае свечку на месцы спачыну сябра ў яго Дзень нараджэння. З вуснаў гучыць шчырая пранікнёная малітва. У гэты момант ён яшчэ не здагадваецца, што праз лічаныя хвіліны сустрэнецца з дарагім таварышам у вечнасці…*

**23 снежня 2016 года каля 17-й гадзіны на вул. Белуша ў Гродне адбылося дарожна-транспартнае здарэнне. У выніку яго загінуў прафесар Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі кс. Тадэвуш Вышынскі СМ. Паводле папярэдняй версіі, святар адчуў сябе дрэнна і не змог справіцца з упраўленнем аўтамабіля. На закругленні дарогі транспартны сродак выехаў за межы праезжай часткі і ўрэзаўся ў дрэва.**

## Апошняя вігілія

У трагічны вечар кс. Тадэвуш паехаў на могілкі "адведаць" спачылага сябра кс. Міхала Варанецкага СМ. Менавіта той больш за 25 гадоў таму пераканаў прафесара прыехаць са святарскай місіяй у Беларусь. Абодвух звязвала не толькі прыналежнасць да адной манаскай супольнасці, але і цесныя таварыскія адносіны.

Святары Гродзенскай дыяцэзіі доўга не маглі паверыць у тое, што сталася. Дзень таму яны разам ламаліся аплаткай на супольнай сустрэчы і складалі адзін аднаму сардэчныя віншаванні. Як успамінаюць, у ксяндза было яшчэ шмат планаў… Але дастаткова толькі ўзгадаць, колькі ён ужо паспеў за пражытыя 86 гадоў…

## Нястомная праца на хвалу Бога

Кс. Тадэвуш Вышынскі нарадзіўся 26 красавіка 1930 года на Беласточчыне ў мясцовасці Пекуты Новыя. У 19-гадовым узросце ўступіў у Супольнасць місіянераў св. Вінцэнта дэ Поля. Манаскія абяцанні склаў 15 снежня 1951 года. Святарскія пасвячэнні атрымаў з рук біскупа Станіслава Распонда ў Кракаве 24 чэрвеня 1956 года.

Вучыўся ў Варшаўскай акадэміі каталіцкай тэалогіі (цяпер гэта Універсітэт імя кардынала Стэфана Вышынскага), у Люблінскім каталіцкім універсітэце і ў Каталіцкім інстытуце ў Парыжы. Быў выкладчыкам і віцэ-рэктарам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гданьску-Аліве. Затым выкладаў у Кракаве. Займаў пасаду дырэктара клерыкаў, віцэ-рэктара Вышэйшай духоўнай семінарыі Супольнасці місіянераў св. Вінцэнта дэ Поля. Акружаючых заўсёды ўражваў працагалізм святара. Яго ніколі не бачылі стомленым. Сярод выкладчыкаў у семінарыі меў, напэўна, найбольшую колькасць лекцый на тыдзень.

Адначасова з педагагічнай дзейнасцю выконваў душпастырскую паслугу ў Варшаве і Гдыні (Польшча), Вітрэ (Францыя). Катэхізаваў дзяцей і моладзь. Меў аналітычны склад розуму. Заўсёды разглядаў рэчы з розных бакоў. Падчас гаміліі мог звярнуцца да вернікаў наступным чынам: "Давайце спынімся над такім словам з Евангелля…". І цэлае казанне прысвяціць разважанню над адным толькі паняццем.

На пачатку 1970-х гадоў святар з'яўляўся капеланам Сясцёр Міласэрнасці ў Хіліцах (Польшча). У 1990–1991 гадах працаваў у ватыканскім сакратарыяце па справах дыялогу ў Рыме (Італія).

## Гармонія ў музыцы і жыцці

З 1992 года ксёндз распачаў святарскую паслугу ў Гродне. Выкладаў дагматычную тэалогію і спевы ў духоўнай семінарыі. ***"Быў час, калі ў семінарыі не хапала арганістаў,*** – успамінае кс. Дзяніс Бразінскі, які зараз служыць на Магілёўшчыне. – ***Кс. Тадэвуш прызначыў мяне на гэтую ролю і сказаў, каб вучыўся. Памятаю, як я не любіў арган. Аднойчы прызнаўся ў гэтым святару. На што пачуў у адказ: «Дзяніс, лепей рабіць тое, што трэба рабіць». Гэтыя словы глыбока запалі ў маю душу. Заўсёды іх сабе прыпамінаю".***

Клерык IV курса Гродзенскай ВДС Томаш Мікалайчык бязмежна ўдзячны прафесару, які дапамог яму паверыць у сябе. Алюмн прызнаецца, што прыйшоў у семінарыю з вельмі нізкім нераспрацаваным голасам. ***"Памятаю, як кс. Тадэвуш арганізаваў хор Грыгарыянскага спеву,*** – узгадвае кл. Томаш. – ***І пачаў працаваць са мной індывідуальна. Калі я ўжо трохі выпрацаваў голас, кс. Тадэвуш сказаў: «Нарэшце, вышаў партызан з лесу!». Дзякуючы намаганням прафесара я з'яўляюся семінарыйным арганістам. Іграю падчас св. Імшы і іншых набажэнстваў у нашай капліцы. Ксёндз заўсёды казаў мне, што магу іграць лепш за яго, бо ён не мае аднаго пальца. А іграў ён вельмі прафесійна".***



*Прафесар стараўся ісці ў нагу з эпохай інтэнсіўнага прагрэсу і развіцця сучасных тэхналогій*



*Кс. Вышынскі цэлебруе св. Імшу ў дзень літургічнага ўспаміну свайго св. заступніка, апостала і мучаніка Юды Тадэвуша*

Перад кожнай урачыстасцю святар звычайна праводзіў у капліцы рэпетыцыю з клерыкамі. З адказнасцю адносіўся да таго, каб спеў заўсёды гучаў добра.

## Душа, адкрытая на кожнага

Кс. Тадэвуш быў чалавекам высокай культуры. Інтэлегентны, высакародны, далікатны, сумленны. Шмат дабра рабіў употай. Умеў да кожнага знайсці індывідуальны падыход. Многія адзначалі яго "хрысціянскі" гумар – бяскрыўдны і інтэлектуальны. ***"У семінарыі мелі залік, калі павінны былі здаць 92 прэфацыі,*** – успамінае дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. – ***Дзесьці трэць я адспяваў. Пытаюся, ці можна выйсці з аўдыторыі, каб выпіць вады. А ён мне: «Хто падчас Імшы натоліць табе смагу?». І мы прадоўжылі. Калі дайшла чарга спяваць прэфацыю на Імшу Хрызму, кс. Тадэвуш кіўнуў, што магу прапусціць. Але чаму? А ён мне адказвае: «Як будзеш біскупам, я цябе навучу»…".***

Семінарысты часта бачылі ксяндза ў капліцы з ружанцам у руцэ, на адарацыі, падчас Крыжовага шляху, які перажываў індывідуальна. Любы вольны час выкарыстоўваў для малітвы. Нярэдка адгаворваў Брэвіярый у доўгіх чэргах, калі выязджаў за мяжу.

З усімі намагаўся знайсці агульную мову. Гаварыў: ***"Я да згоды, як рыба да вады". "Пазнаёміўся з кс. Тадэвушам яшчэ падчас семінарыйных рэкалекцый па распазнанні паклікання,*** – гаворыць алюмн І курса Андрэй Юхнік. – ***Святар падаўся мне велікадушным чалавекам. Ад яго выходзілі спакой і прыязнасць. Быў радасны. Не маркоціўся. Па меншай меры ніхто гэтага не назіраў. Пасля паступлення ў семінарыю заўважыў за ксяндзом звычку заходзіць на вахту і папраўляць коўрык на падлозе. Пры гэтым ён заўсёды стукаўся і з жартам пытаўся, ці можна яму ўвайсці. Я быў вельмі здзіўлены, калі даведаўся, што ў такім салідным узросце ксёндз карыстаецца камп'ютарам і водзіць аўтамабіль".***



*Святар з цікавасцю сачыў за мастацка-тэатральнай дзейнасцю ў семінарыі*

## Уклад у хрысціянскую бібліятэку

На працягу доўгага часу кс. Тадэвуш удзельнічаў у сходах Гродзенскай дыяцэзіі і Мінска-Магілёўскай мітраполіі, на якіх рыхтаваліся да друку навуковыя і душпастырскія дапаможнікі, літургічныя кнігі. З 1995 года належаў да Рады па справах выдавецтва і выконваў абавязкі цэнзара Гродзенскай дыяцэзіі. Ведаў польскую, французскую, італьянскую, нямецкую, рускую мову, добра арыентаваўся ў беларускай. Таму як цэнзар ахвотна чытаў кнігі, што рыхтаваліся да друку. ***"Мы часта з ім сустракаліся і дыскутавалі,*** – распавядае дырэктар гродзенскага дыяцэзіяльнага выдавецтва кс. Тадэвуш Крыштопік. – ***Заўсёды быў ураўнаважаны і разважлівы ў тым, што казаў. Сваю думку аргументаваў цярпліва, навукова і выразна. Я ведаў кс. Тадэвуша як зычлівага чалавека, які мае выдатнае пачуццё гумару. Яго дабрадушныя жарты нікога не зневажалі, і ў той жа час у іх было зерне добразычлівага павучання".***

Шмат намаганняў прафесар прыклаў да перакладу Імшалу. Увогуле, унёс значны ўклад у развіццё літургічнай беларускай мовы.

У 2015 годзе кс. Тадэвуш атрымаў крыж „Pro Ecclesia et Pontifice" ("За заслугі перад Царквой і Папам") – адну з высокіх адзнак Апостальскай Сталіцы.

## Навечна ў сэрцах

…Штовечар старэйшыя святары збіраюцца ў семінарыі на агляд навін па тэлебачанні. Да нядаўняга часу і кс. Тадэвуш уваходзіў у гэтую таварыскую кампанію. ***"Памятаю, стукаецца ў дзверы майго пакоя і гаворыць: «Айцец духоўны запрашае на "дзённік"»,*** – успамінае калега і сябра спачылага святара кс. прэлат Ежы Мар'ян Лявінскі. – ***Для нас гэта такі час, калі збіраемся разам і размаўляем, нешта абмяркоўваем. З кс. Тадэвушам часта ўзгадвалі Сібір. Нас аб'ядноўвала тое, што перад Другой сусветнай вайной абое былі сасланы ў ліку паўтара мільёна палякаў. І хоць ён быў на поўначы, а я – на поўдні, шматкроць вярталіся да тых часоў… Як жа мне не хапае Тадзі…".***

***Кс. Юрый Марціновіч і Ангеліна Пакачайла***

## Слова для жыцця

### *Папа Францішак*



*Сапраўдным святлом з'яўляецца святло Пана, ці, лепш, сам Пан. Яно не асляпляе, але спадарожнічае і дае выключную радасць. Гэтае святло для ўсіх, яно кліча кожнага. Мы можам прыняць такое запрашэнне на пачатку кожнага дня: "Устань, свяціся" (параўн. Іс 60, 1), ідзі сярод мноства падаючых у свеце зорак за ззяючай зоркай Езуса. Накіроўваючыся за ёй, атрымліваем радасць, як адбылося з Мудрацамі: бо дзе ёсць Бог, там ёсць радасць.*

*Той, хто прагне сапраўднага святла, павінен выйсці за ўласныя рамкі і шукаць: не замыкацца ў сабе, непарушна чакаючы і гледзячы на тое, што адбываецца навокал, а поўнасцю прысвячаць сябе. Хрысціянскае жыццё – пастаяннае пілігрымаванне сярод надзеі і пошуку; дарога, па якой, падобна Мудрацам, неабходна ісці нават калі зорка на хвіліну знікае з поля зроку.*

*Фрагмент разважання перад малітвай "Анёл Панскі", 06.01.2017*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Ад святара, настаўніка ці ўрача мы чакаем вернага і сумленнага выканання сваіх абавязкаў. Прыняцце святарскага пасвячэння ці атрыманне дыплома настаўніка або ўрача – гэта толькі пачатак дарогі, на якой чалавек рэалізуе сваё пакліканне. Яно надзяляецца Богам і патрабуе штодзённага адказу. Падобна і сакрамант святога хросту абавязвае кожным словам і ўчынкам даваць сведчанне жывой веры і прыналежнасці да Хрыста.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай у Нядзелю Хросту Пана, 08.01.2017*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Езус называе сябе Тым, хто прыйшоў абвяшчаць духоўнае валадарства Бога і збавіць чалавецтва. Гэтае аб'яўленне недасяжна ніякім навуковым даследаваннем і пазнаецца толькі праз веру. Бог паказваецца кожнаму, хто слухае і чытае Святое Пісанне, прымае святыя сакраманты і г. д. Такім чынам, Божае аб'яўленне трывае ў людскіх душах. Пан адкрывае новыя аспекты сваёй прысутнасці сярод нас. Часам адно слова, якое чыталі і чулі тысячы разоў, становіцца сучаснай Бэтлеемскай зоркай, што вядзе да спаткання з Хрыстом і да адкрыцця такіх таямніц Божага Провіду, пра якія мы нават не думалі і не гадалі.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай ва ўрачыстасць Аб'яўлення Пана ў Адэльску, 06.01.2017*




◆ *Распачала працу новая ўстанова Рымскай курыі – Дыкастэрыя па справах інтэгральнага развіцця чалавека. Яна паўстала шляхам аб’яднання ранейшых Папскіх радаў: “Iustitia et Pax”, “Cor Unum”, па справах душпастырства службы аховы здароўя і па справах душпастырства мігрантаў і падарожных. З 2017 года сур’ёзныя змены адбываюцца таксама ў СМІ. Аб’яднаны Адміністрацыі Ватыканскага радыё і Ватыканскага Тэлевізійнага цэнтра. Яны ўвойдуць у склад Рымкай курыі, як і ўсе астатнія ўстановы, што належаць да розных яе дыкастэрый.*

◆ *V Еўрапейскі каталіцка-праваслаўны форум адбыўся ў Парыжы (Францыя). Сустрэча прайшла пад дэвізам “Еўропа, якая сёння стаіць перад абліччам страху тэрарызму і выкліку фундаменталізму. Вартасць асобы і рэлігійная свабода”. У рамках форуму былі прадугледжаны працоўныя сесіі, дыскусіі, экуменічная малітва. Мерапрыемства мае менш чым 10-гадовую гісторыю і адбываецца раз на 2 гады па чарзе ў краіне з каталіцкай і праваслаўнай большасцю. Папярэдні форум праходзіў у Мінску.*

◆ *У Манагуа (Нікарагуа) адкрыты музей св. Яна Паўла ІІ. У ім сабраны рэчы, звязаныя з папскімі візітамі ў гэтую краіну ў 1983 і 1996 гадах. Інаўгурацыю пляцоўкі здзейснілі Апостальскі нунцый арцыбіскуп Фартуната Нвачукву і Мітрапаліт Манагуі кардынал Леапольда Брэнэс. Прысутнічалі і прадстаўнікі ўлады, у тым ліку прэзідэнт Даніэль Артэга з жонкай Расарыё Мурыльё. Музей займае плошчу 1200 метраў квадратных. У ім знаходзяцца 3 галерэі, капліца, помнік св. Яну Паўлу ІІ і “сады роздуму”. У прыстройцы, якая называецца Пасеа Ксалатан, змешчаны копіі галоўных каталіцкіх касцёлаў Нікарагуа.*

◆ *Па ўсім свеце ўзносіцца спецыяльная дзіцячая малітва аб супакоі ў Сірыі. Гэтая ініцыятыва нарадзілася ў францысканскай парафіі ў Алепа. З часам да яе далучыліся малодшыя вернікі нават з самых аддаленых куткоў свету. “Мы стараемся рабіць літургію больш разнастайнай, каб сімвалы выражалі пачуцці і жаданні дзяцей, – падкрэслівае с. Брыгіта Манюрка FMM, што працуе ў Алепа. – У працэсіі з дарамі хлопчыкі і дзяўчынкі нясуць свае цацкі на знак таго, што вайна адабрала ў іх дзяцінства, такім чынам просячы Бога, каб абараняў іх”.*

◆ *Паводле статыстычных дадзеных Цэнтра па вывучэнні новых рэлігій, кожныя 6 хвілін на зямлі гіне вызнаўца Хрыста. За мінулы год было забіта каля 90 тысяч чалавек, прыкладна 600 мільёнаў папалі пад рэпрэсіі за сваю веру. Як заўважае дырэктар цэнтра прафесар Масіма Інтравіньe, “хрысціяне – найбольш праследуемая рэлігійная група ў сучасным свеце. Паслядоўнікі Хрыста асабліва пакутуюць ад рук прадстаўнікоў так званай «Ісламскай дзяржавы»”.*

*credo-ua.org; ekai.pl; niedziela.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

# Разам пракладваем дарогі надзеі



*Хрыстос злучае ўсіх людзей у адну сям’ю*

● працяг са с. 1

## Беларускія валанцёры

У сёлетнюю сустрэчу ўпершыню ў якасці валанцёраў уключылася моладзь з Гродзенскай дыяцэзіі. У склад групы ўвайшлі 7 чалавек. Яны дапамагалі ў рэгістрацыі і прыёме пілігрымаў. ***“Мы рассялялі ўдзельнікаў сустрэчы па школах,*** – распавядае Алена Харольская. ***– Было нялёгка кожную раніцу ўставаць раней за ўсіх, будзіць пілігрымаў, карміць іх сняданкамі, а потым самой збірацца за пару хвілін і бегчы на малітву. Увечары валанцёры клаліся спаць позна, каб упэўніцца, што ўсё ў парадку. Але яно таго каштавала!***

> Рыга – горад з моцнай лютэранскай традыцыяй, глыбокімі сувязямі паміж рознымі хрысціянскімі канфесіямі.

***Прыемна, калі ў пакой заглядала моладзь і прапанавала сваю дапамогу”.*** Алена прызнаецца, што з-за рыжскага сырога клімату ў яе некалькі дзён трымалася высокая тэмпература. Прыйшлося звярнуцца да сяброў з просьбай аб малітве. Хутка здароўе паправілася, і дзяўчына адчула сябе лепей.

***“Мяне цешыць, што наша моладзь хоча і здольная служыць іншым”,*** – адзначае душпастыр моладзі Гродзенскай дыяцэзіі кс. Антоній Грэмза. Ён таксама ўдзельнічаў у спатканні. Упершыню трапіў на такую

> Кожны тыдзень моладзь з розных кантынентаў наведвае Тэзэ, каб прыняць удзел у жыцці супольнасці.

сустрэчу ў 2005 годзе ў Мілане (Італія). З таго часу сустракае Новы год у духу Тэзэ рэгулярна. ***“Гэта добрая нагода для інтэграцыі моладзі, шлях да з’яднання маладых хрысціян Еўропы. Падобныя сустрэчы наглядна дэманструюць той факт, што сённяшні свет не мае межаў”,*** – дадае кс. Антоній. Заўважае, што ўсё больш маладых людзей з Беларусі натхняюцца атмасферай Тэзэ. У вялікіх парафіях арганізуюцца сустрэчы ў духу экуменічнай супольнасці, у якіх моладзь ахвотна прымае ўдзел. Душпастыр рэкамендуе тым, хто хоча бліжэй пазнаёміцца з Тэзэ, хоць аднойчы пабываць у французскай вёсцы, дзе пражывае супольнасць. Браты заўсёды з адкрытасцю і прыхільнасцю прымаюць пілігрымаў.

## Гасцінная Рыга

Большасць беларусаў наведалі Латвію ўпершыню. Маладыя людзі з цікавасцю разглядалі рыжскую архітэктуру, дзе, дарэчы, было на што паглядзець. Гістарычны цэнтр сталіцы Латвіі ўнесены ў спіс Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА за “выдатную ўсеагульную каштоўнасць”. ***“Гэты горад нечым нагадаў мне Кракаў з яго старымі вузкімі вулачкамі,*** – прызнаецца Антон Яскевіч. ***– На экскурсіі адзначыў, наколькі розныя паміж сабой хрысціянскія святыні. Пра знешняе непадабенства цяжка нешта гаварыць, бо яшчэ 300 гадоў таму будынкі кірхаў былі касцёламі. Адрозніваецца ўнутранае ўбранства святынь. У пратэстантаў яно даволі сціплае. Няма абразоў. У калядны перыяд мы нават стаенкі не заўважылі. У касцёлах жа ўсё наадварот... Але што цікава: разыходжанні паміж вернікамі зусім не адчуваюцца. Здавалася, на першы погляд, «свае», а пазней высвятлялася, што людзі належаць да другой канфесіі. Не было ніякіх бар’ераў! Сэрца поўнілася радасцю, што мы такія розныя, але разам”.***

Беларуская моладзь адзначыла адкрытасць і шчырасць з боку латышоў, якія прымалі іх на начлегі. Мясцовыя жыхары імкнуліся прыняць пад сваім дахам як мага больш людзей, старанна клапаціліся аб тым, каб гасцям усяго ставала. ***“Наш гаспадар не дазваляў мыць за сабой посуд!*** – распавядае с. Віргінія CSFN. – ***У яго доме адчувалі сябе важнымі гасцямі. Карліс гатаваў для нас смачныя сняданкі, абеды і вячэры. Клапаціўся аб тым, каб не праспалі і своечасова прыбылі да вызначанага месца. Супраўджаў у дарозе. Быў уважлівы, як любячы бацька! Вера чалавека праяўлялася праз служэнне ў простых паўсядзённых рэчах... Дарэчы, сам ён праваслаўнага веравызнання. Маці – каталічка, бацька – лютэранін. Як згадваў, яго жыццё поўнасцю пераварнула пілігрымка з мамай у Меджугор’е, пасля чаго мужчына адкрыў для сябе новую рэальнасць і ахрысціўся”.***

## Выхад за межы звыклага

Падчас медытацый у групах моладзь заахвочвалася да будаўніцтва міжчалавечых мастоў, для чаго не патрэбны

> Больш за 100 тысяч маладых людзей сабралі экуменічныя сустрэчы ў 1992 годзе ў Вене (Аўстрыя) і ў 1994 годзе ў Парыжы (Францыя).

незвычайныя сродкі. Дэвізам спатканняў былі словы: “Выбіраць жыццё ў прастаце, каб дзяліцца з іншымі”. Маладыя людзі выступалі з асабістымі сведчаннямі, што датычаць жыццёвых драм ці адносін паміж навукай і верай.

***“Я ўпершыню апынулася ў вялікай кампаніі людзей розных канфесій,*** – распавядае с. Аляксандра CSFN. – ***Мела магчымасць выйсці за межы «камфортных» зносін і пазнаёміцца з баптыстамі, лютэранамі. Гэта было незвычайна! Дагэтуль я жыла з думкай «якія мы розныя», а зараз зразумела, што вельмі падобныя паміж сабой. Робім адну і тую ж добрую справу – праслаўляем Стварыцеля. Мне нават захацелася пазнаёміцца з людзьмі іншых веравызнанняў у сваёй мясцовасці, пачаць з імі кантактаваць. Упэўнена, што вера аб’ядноўвае і дапамагае выбудаваць паміж людзьмі добрыя адносіны”.***

Музычнае афармленне падчас малітваў дапамагала ўвайсці ў атмасферу засяроджанасці для размовы з Богам. Дарэчы, богаслужбовая музыка з’яўляецца адметнай асаблівасцю экуменічнай супольнасці і адлюстроўвае яе духоўную прыроду. Моладзь задавала сабе пытанні наконт матываў і паводзін, што датычаць сведчання веры і ўчынкаў у адносінах да бліжніх. Кульмінацыйным момантам сустрэчы стала вячэрняя малітва аб міры і навагодняе “свята народаў”.



*Тысячы еўрапейцаў сустракаюць надыходзячы год, трываючы на экуменічнай малітве*

## Божы Провід

***“Памятаю, як ва ўрачыстасць Святой Сям’і вельмі хацелі прыняць удзел у Эўхарыстыі,*** – дзеліцца с. Вірігінія CSFN. – ***Мы як сёстры з Кангрэгацыі Найсвяцейшай Сям’і з Назарэта асаблівым чынам ушаноўваем гэтае свята. І вось гуляем у горадзе і заходзім у касцёл, дзе якраз распачынаецца св. Імша з удзелам польскіх пілігрымаў. Як гаворыцца, выпадковасць – Божы псеўданім. Былі бязмежна рады такому ходу падзей. Адчувалі, як у гэты час былі адкрыты нябёсы...”.***

У першы дзень Новага 2017 года Рыга развіталася з маладымі людзьмі, якія на працягу 4-ох дзён маліліся і дзяліліся сваёй верай з прысутнымі. Чарговае еўрапейскае спатканне ў духу Тэзэ адбудзецца на мяжы 2017 і 2018 года ў Базылеі (Швейцарыя). Прыёр экуменічнай супольнасці брат Алоіз Лазэр патлумачыў, што такім чынам пасля Валенсіі і Рыгі гэтая падзея вернецца ў цэнтр Старога кантынента. Яна будзе прымеркавана да 500-годдзя Рэфармацыі, важным асяродкам якой была менавіта Швейцарыя.



*Тыднёвыя міжнародныя спатканні ўключаюць размовы ў малых групах на евангельскія тэмы*

> *Традыцыйныя навагоднія сустрэчы ў духу Тэзэ супольнасць арганізоўвае з 1978 года. Звычайна яны праводзяцца ў адным з буйных гарадоў Еўропы. Тыпічны расклад моладзевага спаткання ўключае малітвы, чуванні, роздумы ў цішыні, тэматычныя семінары, абмеркаванні ў групах. Калядныя сустрэчы рыхтуюцца намаганнямі мясцовых парафій і сямей вернікаў горада-арганізатара. Прызначаны для тых, хто любіць глыбокую малітву і духоўнае разважанне.*

***Кс. Юрый Марціновіч і Ангеліна Пакачайла***




# “Прымірэнне – любоў Хрыста ахапіла нас”

**Пад такім дэвізам пройдзе сёлетні Тыдзень малітваў аб еднасці хрысціян. 18–25 студзеня прадстаўнікі розных канфесій будуць сустракацца на экуменічных набажэнствах і канферэнцыях, знаёміцца адзін з адным, размаўляць і супольна маліцца аб поўным і бачным адзінстве вызнаўцаў Хрыста.**

## Закліканыя абвяшчаць згоду

Матэрыялы для сёлетніх экуменічных малітваў падрыхтавалі хрысціяне з Германіі. Напрацоўка ўключае ў сябе інфармацыю аб экуменічнай сітуацыі ў гэтай краіне, а таксама прапановы набажэнстваў, малітваў, біблійных разважанняў і абмеркаванне галоўнай тэмы сёлетняга Тыдня малітваў аб еднасці хрысціян. Яна спасылаецца на тэкст з Другога Паслання св. Паўла да Карынцянаў (5, 14–20), дзе падкрэсліваецца, што прымірэнне з'яўляецца дарам Усемагутнага для ўсяго стварэння. У выніку Божага ўздзеяння асоба, якая паядналася ў Хрысце, заклікана да абвяшчэння паяднання праз словы і ўчынкі.

У матэрыялах увага звяртаецца на 2 аспекты. З аднаго боку, гаворка ідзе пра цэлебрацыю Божай любові і ласкі, “апраўданне чалавецтва толькі праз ласку”, што адлюстроўвае асноўны клопат Цэркваў, якія выраслі з Рэфармацыі Марціна Лютэра. З другога боку, падкрэсліваецца далікатная тэма наступных глыбокіх падзелаў, што паўплывалі на Касцёл. Адкрыта ўказваецца віна, а таксама падказваюцца крокі на шляху да паяднання.

“Свет патрабуе паслугі прымірэння, якая зламае бар'еры, пабудуе масты, прынясе супакой і адчыніць дзверы да новага спосабу жыцця ў імя Таго, хто злучыў нас з Богам – Езуса Хрыста. Святы Дух вядзе да прымірэння ў Яго імя. Няхай крыніца цудоўнага Божага паяднання разліваецца падчас сёлетняга Тыдня малітваў, каб шмат людзей маглі знайсці супакой”, – чытаем у брашуры, падрыхтаванай з нагоды Экуменічнага тыдня.

## Адзінства не азначае паглынання іншых

Можа здавацца, што экуменічная дзейнасць датычыць толькі тэолагаў. Безумоўна, важна, каб багасловы навучаліся, дасягалі ўзаемнага здзяйсняецца, калі адны моляцца за другіх, і ўсе – аб адзінстве. Затым ідзе экуменізм дзеяння – на карысць вялікай колькасці патрабуючых, мноства мужчын і жанчын, якія сёння пакутуюць з-за несправядлівасці і войнаў. Мы ўсе разам павінны ім дапамагаць. Любоў

> Касцёл Езуса Хрыста па Божай задуме адзіны. Падзелены ён у рэчаіснасці самімі людзьмі. Таму трэба імкнуцца да пераадолення бар'ераў, якія нас раздзяляюць. Але не для таго, каб знішчыць іх, а каб знайсці тое, што аб'ядноўвае. І на ім, наколькі гэта магчыма, будаваць адзінства праз малітву, супольную дзейнасць, абарону хрысціянскіх і евангельскіх каштоўнасцей, а таксама праз культурныя і навуковыя падзеі.

да бліжняга – вось экуменізм! Гэта ўжо і ёсць адзінства. Адзінства ў дарозе з Езусам”.

У той жа час Папа падкрэслівае, што еднасць хрысціян не азначае паглынання іншых ці “зваротнага шляху”, каб хтосьці мусіў адрачыся ад уласнай гісторыі веры. Еднасць таксама не з'яўляецца аднароднасцю, уніфармізмам. “Розныя тэалагічныя, літургічныя, духоўныя і кананічныя традыцыі, якія развіліся ў хрысціянскім свеце, калі яны бяруць свой пачатак з традыцыі Апосталаў, з'яўляюцца багаццем для Касцёла”, – гаворыць Пантыфік.

## Цыклічнае святкаванне экуменізму

Тыдзень малітваў аб еднасці хрысціян мае ўжо больш за 100-гадовую традыцыю. Упершыню ідэя міжканфесійнай малітвы аб адзінстве з'явілася ў XIX стагоддзі. У цяперашнім фармаце цыкл экуменічных мерапрыемстваў праводзіцца з 1908 года па ініцыятыве кс. Пола Уотсана.

**Экуменізм – гэта:**
- дзейнасць на карысць прымірэння хрысціян
- дыялог розных канфесій і спроба ўзаемапаразумення
- поўная талерантнасці і павагі пастава адносна бліжніх і іх рэлігійных традыцый

паглыбленне, выражалі тое, у чым не згаджаюцца хрысціяне розных канфесій. Але адначасова з тым, экуменізм ствараецца “ў дарозе”. Святы Айцец Францішак адзначае, што гэта дарога з Хрыстом: “Не з маім Езусам супраць твайго, а з нашым Езусам. Гэта простая дарога, якую можна адолець праз малітву і дапамогу іншым. Маліцца разам. Экуменізм малітвы

Адзначаецца паміж даўнім святам катэдры св. Пятра (18 студзеня) і святам навяртання св. Паўла (25 студзеня). Часам ініцыятыў так шмат, што, насуперак назве, Тыдзень мылітваў працягваецца некалькі тыдняў, а нават і месяц. Звычаем стала гасцінная “замена” прапаведнікаў падчас набажэнстваў – казанне ў святыні прамаўляе духоўнік іншай канфесіі.



**Уладзімір Татарнікаў,**
*пастар лютэранскай кірхі ў Гродне*

*Тыдні малітваў аб еднасці хрысціян дапамагаюць пашырыць адносіны паміж вернікамі розных канфесій. Мы больш даведваемся адзін пра аднаго, пачынаем разумець, што не трэба баяцца бліжняга, а наадварот – неабходна чуць і разумець іншага, вучыцца нечаму ў яго. Праз сумесную малітву ўсведамляем, што дзякуючы прынятаму сакраманту хросту з'яўляемся братамі і сёстрамі ў Хрысце.*

*Падобна як і ў кожнай сям'і не бывае ўсё гладка, так і сярод хрысціянскіх канфесій існуюць дагматычныя разыходжанні. Сёння створаны шматлікія багаслоўскія, міжцаркоўныя камісіі, мэтай якіх з'яўляецца пошук шляхоў вырашэння розных пытанняў, што ўзнікаюць паміж хрысціянскімі канфесіямі. Але для нас самых нашмат важней маліцца ў сваіх супольнасцях адзін з адным і адзін за аднаго, просячы Бога паказаць шлях вырашэння рознагалоссяў, каб шукаць і знаходзіць тое, што нас аб'ядноўвае, а не раз'ядноўвае.*

*Цешыць той факт, што з боку хрысціянскіх канфесій ужо робяцца канкрэтныя сумесныя крокі ў гэтым накірунку. Гэта супольная сацыяльная праца (дыяканія), дапамога людзям у патрэбе, малітва, міжканфесійныя сустрэчы. Вельмі важна мець кантакт адзін з адным, бо ўзаемныя стасункі маюць вялікае значэнне: ухіляючыся ад дыялогу, нельга вырашыць ніводнай праблемы. Варта не забывацца, што экуменізм – гэта не нейкі лозунг, а перадусім сумесная праца, малітва і служэнне.*



**А. Андрэй Крот,**
*душпастыр грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай у Гродне*

*Мне здаецца, што Тыдні малітваў аб еднасці хрысціян, на жаль, мала дапамагаюць імкненню да адзінства. Пра іх амаль не гаворыцца ў цэрквах нашага горада, няма адмысловых набажэнстваў у храмах, а малітва ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя – гэта хутчэй выключэнне, чым правіла. Думаю, так адбываецца, таму што нам пакуль утульна жыць у сваіх “канфесійных кватэрах”, а іншых хрысціян часта разглядаем як канкурэнтаў альбо нават ворагаў.*

*Мяркую, не трэба абмяжоўваць нашае імкненне да адзінства адным тыднем, а арганізоўваць рэгулярныя спатканні паміж прадстаўнікамі Цэркваў. На іх можна было б абмяркоўваць, у першую чаргу, пытанні сумеснага служэння ў грамадстве, магчыма, і пэўныя балючыя аспекты веравучэння і гісторыі. Некалькі гадоў таму мой сябра з Адэсы распавядаў, што ў іх горадзе існуе Савет хрысціян, які аб'ядноўвае афіцыйных прадстаўнікоў Цэркваў. Думаю, падобны “орган” у Гародні быў бы вельмі патрэбны.*

*Што да тэмы сёлетняга Тыдня малітваў аб адзінстве: “Прымірэнне – любоў Хрыста ахапіла нас”. Лічу вельмі важным, што звяртаем асаблівую ўвагу на любоў. Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі і сацыяльных сетках часта сутыкаюся са скептычным, а навят і варожым стаўленнем да хрысціянства. Асноўны закід, які робяць людзі ў наш бок – гэта нязгоднасць жыцця вернікаў розных канфесій з іх рэлігійнымі перакананнямі. Адсутнасць любові, канкурэнцыя ці варожасць паміж наступнікамі Хрыста – гэта, я б сказаў, “фундаментальная” неадпаведнасць з Евангеллем. Калі ў нас няма любові да брата, дык што ж казаць пра любоў да няверуючага, ворага, праследаваცеля?*

*Варта звярнуць увагу і на іншы аспект сёлетняга дэвіза: брат ці сястра з іншай Царквы – гэта не “ерэтык” ці “раскольнік”, якога я павінен “збавіць” у сваёй Царкве. Яны таксама ахоплены любоўю Хрыста і з'яўляюцца дзецьмі Божымі. Сваёй традыцыяй бліжні можа ўзбагаціць маю веру і, адпаведна, адносіны з Усявышнім.*



**А. Георгій Рой,**
*настаяцель Свята-Пакроўскага сабора ў Гродне*

*За доўгія стагоддзі падзелаў у нас назбіраўся цэлы стос узаемных прэтэнзій. І першае, што ўсім патрэбна зрабіць для здзяйснення малітвы Хрыстовай аб адзінстве Яго вучняў – не ўваскрашаць гэтыя старыя крыўды, не зводзіць нейкіх рахункаў, не акцэнтавацца на тым, што раз'ядноўвае. Важна ўмець па-хрысціянску прызнаваць свае памылкі. Гэтак жа, як і ў сям'і. Часам падаецца, што праблему можна замаўчаць, і яна больш не выявіцца. Але гэта ілюзія: праз праблему не пераскочыш. Яе ў любым выпадку трэба вырашыць. Неабходна ўмець прагаворваць прадмет увагі, рабіць высновы, знаходзіць сілы, каб прызнаваць свае памылкі і прасіць прабачэння. Гэта надзвычай складана, амаль што немагчыма ў звычайным чалавечым жыцці. Але мы хрысціяне, і гэта менавіта тое, да чаго нас заклікае Хрыстос.*

*Немагчыма таксама напросту пераступіць праз адрозненні ў веравызнанні і сказаць, што гэта не так важна. Аб гэтых пытаннях таксама трэба разважаць. Неабходна разумець, што менавіта нас раз'ядноўвае. Тут немагчыма фарсіраваць еднасць. У іншым выпадку гэта будзе чарговая ілюзія еднасці, яе падробка. Таму на дадзеным этапе галоўнае – не паглыбляць нашых падзелаў.*

*Я сутыкаюся з прыкладамі супрацоўніцтва хрысціян і адзінства паміж імі. Цешуся тым, што, напрыклад, у Беларусі каталікі і праваслаўныя супольна адстойваюць хрысціянскія каштоўнасці ў пытаннях біяэтыкі. Менавіта выклікі сучаснасці, якія закранаюць першаасновы хрысціянскай веры, найбольш яскрава паказваюць, дзе можам мець адзінства і супольна бараніць нашу веру.*

*Адным з найлепшых прыкладаў еднасці могуць быць так званыя “змешаныя” сем'і, дзе муж і жонка, адносячыся да розных хрысціянскіх традыцый, жывуць у згодзе і павазе адзін да аднаго і тых Цэркваў, у якіх выхаваліся. Я сам з такой сям'і. Бабуля была каталічкай, а я стаў праваслаўным святаром. Удзячны Касцёлу за магчымасць паглыбіць сваю багаслоўскую адукацыю. На працягу трох гадоў я атрымліваў стэпендыю для навучання на тэалагічным факультэце ў Германіі. Лічу гэта вельмі каштоўным досведам у сваім жыцці. Ведаю мноства прыкладаў добрага ўзаемадзеяння як з гісторыі, так і ў сучаснасці. Было, канешне, і адваротнае. І згэтага таксама нельга забываць, каб не паўтараць памылак у цяперашнім жыцці і ў будучых суадносінах паміж хрысціянскімі традыцыямі.*

*Кінга Красіцкая*







**Шанс атрымаць уласнага заступніка на 2017 год**

**Кожны год у кляштарах Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці адбываецца жараб'ёўка гадавых заступнікаў. Праз інтэрнэт-старонку www.faustyna.pl у ёй можа паўдзельнічаць кожны вернік.**

*Манахіні адзначаюць, што разам са святымі заступнікамі ахвотныя атрымліваюць малітоўную інтэнцыю на год і пасланне, часцей за ўсё з “Дзённіка” св. Фаўстыны Кавальскай.*

*Місіянерка Божай міласэрнасці надавала вялікае значэнне выбару гадавых заступнікаў, разлічвала на вялікую дапамогу з неба, удзяляемую па іх просьбе. Бо святыя – не толькі прыклад хрысціянскага жыцця, ад якіх можна многаму навучыцца, але і магутныя хадайнікі ў Бога, што заступаюцца за людзей на зямлі.*




**Працэсіі Трох каралёў – у 560-ці гарадах Польшчы**

**У найбуйнейшых вулічных батлейках прынялі ўдзел людзі рознага ўзросту, галоўным чынам сем'і з дзецьмі.**

*Каспар, Мельхіёр і Бальтазар разам са світамі служак, рыцараў і воінаў суправаджалі ўдзельнікаў шэсця да стайні ў пошуках Езуса. Па акрузе разносіліся калядкі ў выкананні членаў працэсіі і Анёльскіх хораў.*

*У гэтым годзе шэсце прайшло пад дэвізам “Мір і дабрыня”.*




**У сусветны кінапракат выйшаў фільм “Юзаф і Марыя”**

**У аснове стужкі гісторыя натхнення і надзеі, а таксама міласэрнасці як супрацьлегласці помсты.**

*“Юзаф і Марыя” – біблійная драма Іллі, набожнага равіна, які пасля смерці сябра клапоціцца пра яго сям'ю. Аднойчы падчас бойні гінуць дзеці, якіх абяцаў аберагаць равін. З таго моманту прага помсты за іх смерць ператвараецца ў яго жыццёвую місію.*

*Фільм паказвае прыгажосць паўсядзённасці і ўзаемнай блізкасці членаў Святой Сям'і. Дзеянне адбываецца ў часы дзяцінства Езуса.*

*Кінга Красіцкая*

## Рэкалекцыі для дзяўчат прайшлі ў Адамавічах

*Тэмай духоўных практыкаванняў сталі словы з Евангелля: "Калі не станеце як дзеці, не ўвойдзеце ў Валадарства Нябеснае" (Мц 18, 3). Сутнасць Божага дзяцінства дзяўчатам наблізіў кс. Андрэй Скамарошка.*

Рэкалекцыі адбываліся ў кляштары сясцёр кармэлітанак Дзіцятка Езус. Дзяўчаты разважалі над Божым словам, адаравалі Найсвяцейшы Сакрамант, дзякавалі Богу за дар веры, любові, за ўсе здольнасці і таленты, якія маюць.



Удзельніцы духоўных практыкаванняў даведаліся, што дзяцінства Божае адзначаецца пакорай, беднасцю, даверам Пану і любоўю. Напрыканцы дзяўчаты атрымалі заданне несці Божае дзяцінства ў паўсядзённым жыцці не толькі словамі, але і ўчынкамі.

## "Мая сустрэча з Езусам і іншым чалавекам"

*Пад такім дэвізам у дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Сем'яў у Тракелях адбыліся рэкалекцыі для дзяўчат з лідскай парафіі Святой Сям'і.*

На час духоўных практыкаванняў верніцы адмовіліся ад мабільных тэлефонаў, каб прысвяціць свой час выключна Богу і бліжняму. С. Алена Пляхімовіч CIM старалася наблізіць удзельніцам праўду аб тым, што Бог дае сябе ў другой асобе і заклікае людзей прымаць іншых з любоўю такімі, якія яны ёсць. Усемагутны вучыць прымаць і ўласную асобу, бо няма любові да бліжняга без любові да саміх сябе.



Дзяўчаты прыйшлі да высновы, што кожны чалавек з'яўляецца вялікім дарам Бога, а жыццё, якое дае Усявышні, – сапраўдным падарункам. І яго трэба пражываць належным чынам у добрых адносінах з Хрыстом і акружаючымі.

## Аплаткавая сустрэча Душпастырства моладзі "OPEN" прайшла ў Гродне

*На святочным спатканні ў пабрыгіцкім касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі сабраліся маладыя людзі, якія вучацца і працуюць у горадзе над Нёманам.*

Сустрэча распачалася св. Імшой, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. У гаміліі іерарх нагадаў, што кожны чалавек павінен найперш сам спаткаць жывога Езуса, быццам бы дакрануцца да Яго, а потым занесці ўсім, хто аб Ім мала ведае або занядбаў кантакт з Ім. Біскуп заклікаў моладзь паважаць бліжняга і будаваць з ім трывалыя адносіны, заснаваныя на веры, надзеі і любові.

На заканчэнне літургіі душпастыр маладых людзей кс. Антоній Грэмза падзякаваў іерарху за яго ўдзел у справах дыяцэзіяльнай моладзі.



Затым адбылося асвячэнне аднаўленай залы імя св. Клімента пры пабрыгіцкім касцёле, якая будзе выкарыстоўвацца для душпастырскіх сустрэч. Пасля быў зладжаны канцэрт калядак і рэлігійных песень у выкананні гурта "OPEN". Напрыканцы маладыя людзі падзяліліся аплаткай і склалі адзін аднаму святочныя віншаванні.

## У Ішчолне ўзгадалі кс. Баляслава Красадомскага

*Св. Імшу з нагоды 50-ых угодкаў смерці пробашча парафіі Найсвяцейшай Тройцы ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.*

Звяртаючыся да сабраных з гаміліяй, кс. Юрый Марціновіч, адказны за СМІ Гродзенскай дыяцэзіі, нагадаў пра постаць спачылага святара. Адзначыў, што на працягу многіх гадоў служэння ён быў для парафіян не толькі выдатным настаўнікам, але і сведкам. Паказваў шлях да Бога і вёў да Яго, як сапраўдны пастыр. Пасля літургіі ўдзельнікі памаліліся на магілках ля месца пахавання святара.

Кс. Баляслаў Красадомскі быў вікарыем у касцёле Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе, а з 1916 года – пробашчам парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Ішчолне. У 1949 годзе быў арыштаваны і высланы ў Сібір. Праз 5 гадоў вярнуўся. Адышоў у вечнасць 4 студзеня 1967 года.



## Навагодняя сустрэча сем'яў адбылася ў Навагрудку

*Супольнасць Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта 7-ы год запар запрашае сужэнцаў і іх дзяцей, каб разам сустрэць Новы год, трываючы ў малітве.*

Св. Імшу апоўначы ўзначаліў кс. Віталій Цыбульскі, душпастыр парафіі ва Уселюбе. Святар заклікаў прысутных даверыць свой сённяшні і заўтрашні дзень Богу, які найлепшым чынам вядзе чалавека па жыццёвых шляхах. На Эўхарыстыі ўдзельнікі спаткання даручылі сваю будучыню і ўсё, што чакае іх у гэтым годзе, Пану Богу, які з'яўляецца Дауцам усякага дабра і благаслаўлення.

С. Мар'яна Алешчык CSFN, адна з арганізатарак сустрэчы, адзначыла, што падчас такіх спатканняў дом назарэтанак у Навагрудку перамяняецца – у ім віруе жыццё. "Для нас, сясцёр, важна бачыць, што кляштар становіцца прытулкам для кожнай сям'і, кожнага чалавека. Стараемся стварыць адпаведную атмасферу, каб людзі адчувалі сябе тут утульна", – падкрэсліла с. Мар'яна.



## Удзельнікі пілігрымкі Ваўкавыск – Тракелі падзяліліся аплаткай

*Сустрэча прайшла ў катэхетычнай зале парафіі св. Вацлава.*

Супольную малітву ўзначаліў кс. Юрый Садоўскі, адказны за мінулагоднюю пешую пілігрымку ў дыяцэзіяльны санктуарый. Пасля яе моладзь прадставіла кароткае выступленне на тэму Божага Нараджэння, куды ўвайшлі прыгожыя разважанні і вершы пра вігілію і Каляды. Затым пілігрымы падзяліліся аплаткай і абмяняліся святочнымі віншаваннямі.

Апошняя частка спаткання складалася з розных конкурсаў, смачнага пачастунку і прыемнага баўлення часу.



## Рэкалекцыі паклікання для юнакоў прайшлі ў Гродне

*Тэмай духоўных практыкаванняў сталі словы "Прыйшлі пакланіцца Яму" (Мц 2, 2). З іх міністранты чэрпалі святло для супольнага разважання.*

Падчас сустрэчы, якая адбылася ў будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі, прысутныя мелі магчымасць адчуць клімат семінарыйнага жыцця, паразмаўляць з клерыкамі і духоўнымі айцамі, узбагаціць свае веды адносна праўд веры і малітвы. Асаблівы час ласкі дапамог міністрантам задумацца над сваім жыццёвым пакліканнем, глыбей пазнаць сябе і аднавіць сувязь з Хрыстом.



## АНОНСЫ

### XIV ФЕСТЫВАЛЬ КАЛЯДНЫХ ПЕСЕНЬ "GLORIA IN EXCELSIS DEO" АДБУДЗЕЦЦА Ў ІЎІ

**У конкурснай праграме выступяць дзеці і моладзь – салісты, дуэты, трыо, квартэты, ансамблі і хоры з розных парафій Іўеўскага дэканата.**

Мерапрыемства пройдзе ў гарадскім Доме культуры 22 студзеня. Пачатак у 14.00.

*Запрашаюцца ўсе жадаючыя.*

### ДЭКАНАЛЬНЫ ПРАГЛЯД КАЛЯДАК І ПАСТАРАЛАК АДБУДЗЕЦЦА Ў САПОЦКІНЕ

**Святочны канцэрт па традыцыі арганізоўваецца мясцовай парафіяй Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча. Пройдзе 29 студзеня ў Доме культуры ўжо ў 16-ты раз. Пачатак у 14.00.**

Да ўдзелу запрашаюцца суполкі, хоры, салісты. Выступіць можа любы жадаючы. Узрост не абмежаваны.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 888-18-29 або (8 0152) 99-21-30 – кс. Антоній Абухоўскі, пробашч парафіі ў Сапоцкіне.*

### VI ФЕСТЫВАЛЬ ХРЫСЦІЯНСКАЙ МУЗЫКІ "ДАСТУКАЦЦА ДА НЯБЁСАЎ" ПРОЙДЗЕ Ў БАРАНАВІЧАХ

**Трохгадзінны канцэрт адбудзецца 11 лютага ў Доме культуры тэкстыльшчыкаў. Пачатак у 19.00. Тэмай сёлетняга фестывалю стануць словы "Каб усе былі адно".**

Упершыню фестываль прайшоў у Астраўцы ў студзені 2012 года як рок-фестываль рэлігійнай песні. Затым – у Гудагаі. Апошнія 3 гады адбываецца ў Баранавічах. За гэты час на сцэне выступалі такія гурты, як "AVE" (г. Гродна), "The Cross Way" (г. Баранавічы), "United in Spirit" (г. Баранавічы), "Laudans" (г. Мінск), "Небасхіл" (г. Мінск) і іншыя.

*Арганізатары абяцаюць гасцям шмат прыемных сюрпрызаў. Уваход бясплатны.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

- **15 студзеня 1991 г.** – кс. Фелікс Сарока, *проб. Адэльск;*
- **17 студзеня 2003 г.** – бп Эдуард Самсэль, *праф. Гродзенскай ВДС;*
- **19 студзеня 1968 г.** – кс. Мар'ян Вандалоўскі, *проб. Правыя Масты;*
- **20 студзеня 1965 г.** – кс. Юзаф Навасадка, *проб. Тэалін;*
- **20 студзеня 1976 г.** – кс. Стэфан Сечка, *проб. Ліпнішкі;*
- **22 студзеня 1965 г.** – кс. Клямент Лікшта, *проб. Быстрыца;*
- **25 студзеня 1968 г.** – кс. Міхал Шымковіч, *проб. Ізабелін.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***



***Хвала Хрысту!***

*Вітаю чытачоў моладзевай рубрыкі “На скрыжаванні”. У сённяшнім нумары мы з Вамі паразважаем пра еднасць паміж людзьмі і адзінства паслядоўнікаў Хрыста. Задумаемся, навошта ў зносінах шукаць кропкі судакранання і калі разнастайнасць з’яўляецца выключным багаццем.*

***Наперад з Богам!***

# Выбудаваць еднасць з акружаючымі

***ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ: “Бог у Хрысце паяднаў з сабою свет, не зважаючы на правіны людзей, і даў нам слова паяднання” (2 Кар 5, 19)***

Смерць на крыжы Божага Сына прымірыла чалавека са Стварыцелем. Грахі перасталі быць безнадзейнай перашкодай на шляху да асягнення вечнага шчасця, бо Хрыстос узяў іх на сябе, прыбіўшы людскія правіны цвікамі да дрэва. З таго моманту кожны веруючы пакліканы да нястомнага абвяшчэння гэтай праўды іншым, каб разам будаваць Божае Валадарства як на зямлі, так і на небе.

***ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА: каб усе хрысціяне, захоўваючы вернасць вучэнню Пана, праз малітву і братэрскую любоў спрыялі вяртанню поўнай еднасці Касцёла і супрацоўнічалі, змагаючыся з сучаснымі выклікамі, якія стаяць перад чалавецтвам***

Папа Францішак часта гаворыць аб экуменічным супрацоўніцтве і намаганнях па аднаўленні поўнага адзінства ўсіх паслядоўнікаў Хрыста. Пантыфік падкрэслівае, што розныя звычаі, якія склаліся ў хрысціянскім свеце (калі яны сапраўды караняцца ў апостальскай традыцыі), з’яўляюцца багаццем, а не пагрозай для адзінства Касцёла. Каб разнастайнасць не прыводзіла да канфлікту, неабходна дазволіць кіраваць Святому Духу. І тады хрысціянскія супольнасці будуць не канкурыраваць, а супрацоўнічаць паміж сабой.

***ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: еднасць***

Не заўсёды быць разам – значыць утвараць еднасць. Напрыклад, жыхары адной дзяржавы могуць не адчуваць цэласнасці як грамадзяне. Тое самае часам назіраецца і ў сем’ях. Людзі, якія жывуць пад адным дахам і складаюць адну ячэйку грамадства, не ведаюць, пра што пагаварыць за вячэрай. Еднасць – гэта ўнутраная сувязная сіла, якая аб’ядноўвае на вышэйшым духоўным узроўні. Яна робіць асобу ўстойлівай да цяжкасцей з-за агульнасці мэты, інтарэсаў з іншымі людзьмі, гатовымі яе падтрымаць.

***МЭТА МЕСЯЦА: выбудаваць еднасць з акружаючымі***

Такі намер наблізіць згоду і дапаможа лепшаму ўзаемаразуменню з тымі, хто побач. Як гэта належным чынам рэалізаваць? Вядома, каб пабудова была моцнай і трывалай, неабходна закласці добры падмурак. Інакш узвядзенне сцен або спробы “навесці прыгажосць” акажуцца няўдалымі. Такім чынам, будаванне еднасці павінна засноўвацца на ўсведамленні і прыняцці таго, што ўсе людзі на планеце аднолькава любімыя Богам, з-за чаго варта паважаць другога і трымацца з ім поруч. Да таго ж, адкрытасць на бліжняга прадстаўляе ўнікальную магчымасць зірнуць у вочы Усемагутнаму.

***СПРАВА МЕСЯЦА: “намацаць” кропкі судакранання***

Магчыма, няпроста трымацца фундаментальных рэчаў – прасцей знайсці сумежныя пункты, дзякуючы якім у зносінах захоўвацца раўнавага. Для будавання еднасці з людзьмі можна паспрабаваць пашукаць тыя моманты, якія аб’ядноўваюць. У выпадку з роднымі гэта могуць быць сямейныя традыцыі, са знаёмымі – інтарэсы ці заняткі, з незнаёмымі цікавы сам пошук агульных кропак судакранання. Усё гэта спрыяе наладжванню больш цесных сувязей паміж людзьмі і паступоваму спасціжэнню кожным праўды аб тым, што, нягледзячы на шматлікія адрозненні і непадабенствы, усе ўваходзяць у адну вялікую сям’ю дзяцей Божых.

***ПЕСНЯ МЕСЯЦА: “У Хрысце адна сям’я”, Валерый Корап***

“Азірніся вакол сябе, гэта ўсё твае сябры...”, – распачынае песню выканаўца. Нагадвае аб тым, што “адзін для аднаго ты і я ў Хрысце адна сям’я”. Запэўнівае, што Бог любіць усіх без выключэння, напаўняючы душы людзей Святым Духам. “Ты мой брат, а ты – сястра ад Нябеснага Айца. Ласка на нас Хрыста, і не будзе ёй канца”.

***КНІГА МЕСЯЦА: “Крыж і філасофія. Сэнс хрысціянства і праблема адзінства”, арцыбіскуп Ёзэф Барон***




Дадзенае выданне з’яўляецца выніковай часткай трылогіі аб Крыжы. У першым томе – “Крыж і Хрысціянства” – разглядаецца агульнае кола пытанняў, у другім – “Крыж і Дыялог” – характарызуецца экуменізм. Аўтар выказвае спадзяванні, што і трэцяя частка – “Крыж і філасофія” – не пакіне чытачоў абыякавымі ў духоўных пошуках. У кнізе закранаюцца адносіны багаслоўя і філасофіі, пытанні метафізікі і гісторыі, рацыянальна-лагічныя сувязі і духоўна-экзістэнцыяльныя. Праца з’яўляецца спробай сістэматызаваць тэму Крыжа, распачатую аўтарамі Новага Запавету, якая працягваецца аж да сённяшняга дня.

*Прашу апісаць гісторыю папства св. Фабіяна. Брат маёй мамы носіць імя гэтага мучаніка. Хацелася б падрабязней пра яго даведацца.*
*Парафіянка з касцёла св. Казіміра ў Ліпнішках*

***АСОБА МЕСЯЦА: св. Фабіян***



Паходзіць са старажытнага рымскага роду. Уступіў на папскі трон у 236 годзе. Яго выбару, відавочна, паспрыяў Божы Провід. Калі вырашалася, каго выбраць на пасаду намесніка Хрыста, над галавой Фабіяна ўзляцеў голуб. Гэты знак прызналі цудоўным.

Фабіян кіраваў Касцёлам на працягу 14-ці гадоў. За гэты час ён упарадкаваў рымскія могілкі, арганізаваўшы на іх сталую адміністрацыю, прызначыў духоўных асоб, каб запісваць і збіраць дакументы, што датычацца мучанікаў, усталяваў штогадовае асвячэнне алеяў, якія ўжываюцца падчас цэлебрацыі сакрамантаў. Як пастыр усяго Касцёла клапаціўся аб захаванні паслушэнства і чыстых звычаяў сярод духавенства і вернікаў. Навярнуў многіх да Хрыста. Існуе легенда, што ён хрысціў імператара Філіпа І (244–249), звернутага да Хрыста сенатарам Понціем.

Падчас праследавання хрысціян у гады панавання імператара Дэцыя (249–251) папа Фабіян быў арыштаваны і замучаны 20 студзеня 250 года. Акалічнасці яго мучаніцтва невядомыя. У 1854 годзе падчас даследавання катакомбаў св. Каліста археолагі знайшлі надмагільную пліту з імем Фабіяна. Мошчы святога спачываюць у Рыме, у царкве св. Пракседы.

***Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў студзені?***

*Св. Генавефа (3 студзеня), св. Анжэла (4 студзеня), св. Раймунд (7 студзеня), св. Адрыян (9 студзеня), св. Аркадзій (12 студзеня), св. Антоній (17 студзеня), св. Фабіян (20 студзеня), св. Агнешка (21 студзеня), св. Лаўра (23 студзеня), св. Францішак (24 студзеня), св. Гіяцынта (30 студзеня).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце ў рэдакцыю або на электронны адрас аўтара рубрыкі: pokachailo.lina@gmail.com.*

***Ангеліна Пакачайла***

---

Лепш пытаць, чым памыляцца

***Якія рэлігійныя святы абавязваюць верніка прымаць удзел у св. Імшы, а якія – не?***

*Прысутнічаць на літургіі кожнага католіка абавязвае ІІІ запаведзь Дэкалогу “Памятай дзень святы святкаваць”. Аб гэтым прыпамінаюць і касцёльныя запаведзі, у першай з якіх гаворыцца: “У нядзелі і прадпісаныя святы ўдзельнічаць у св. Імшы і не рабіць неабавязковай працы”.*

*Кожная дыяцэзія мае літургічны каляндар – дакумент, у якім узгадваюцца ўсе прадпісаныя святы, падчас якіх кожны пробашч абавязаны цэлебраваць св. Імшу ў сваёй парафіі. Звычайна ў календары адзначаны наступныя святы: Святой Багародзіцы Марыі (1 студзеня), Аб’яўленне Пана або Трох Каралёў (6 студзеня), Пальмовая Нядзеля, Уваскрасенне Пана, Унебаўшэсце Пана, Найсвяцейшага Цела і Крыві Пана Езуса або Божае Цела, святых апосталаў Пятра і Паўла (29 чэрвеня), Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі (15 жніўня), Усіх Святых (1 лістапада), Беззаганнае Зачацце Найсвяцейшай Панны Марыі (8 снежня), Божае Нараджэнне (25 снежня) і ўсе нядзелі.*

*Існуюць таксама святы, якія не з’яўляюцца прадпісанымі (напрыклад, Найсвяцейшай Панны Марыі – Маці Касцёла), аднак духавенства заахвочвае вернікаў, згодна са шматгадовай традыцыяй, прымаць удзел у св. Імшы ў гэты дзень. У некаторых краінах з дазволу Апостальскай Сталіцы пэўныя святы перанесены на нядзелю, каб працоўныя будні не заміналі жаданню верных прысутнічаць на літургіі.*

***Кс. Максім Бачарнікаў***
*паводле grodnensis.by*

---




# Містэрыю на тэму Божага Нараджэння прадставілі ў Сапоцкіне

Тэатральную пастаноўку аб прыйсці Езуса Хрыста ў гэты свет па традыцыі падрыхтавалі мясцовыя дзеці і моладзь. Маладыя акцёры падкрэслілі, што святы Божага Нараджэння – гэта радасны час, які трэба перажываць з блізкімі людзьмі, забыўшыся на ўсе крыўды і непаразуменні.













# ЧАМУЧКІ

## Дзіцячая рубрыка



# Чаму людзі моляцца?

**Штодня мы шмат часу прысвячаем размовам. Часцей за ўсё маем зносіны з блізкімі і сябрамі, выкарыстоўваючы мабільны тэлефон. На гэта трацім амаль увесь вольны тэрмін, з-за чаго можам забыцца пра галоўнае – размову з Богам. А для яе дастаткова толькі жадання сустрэцца з Панам на малітве...**

З глыбокай старажытнасці народы, якія жылі ў розных частках свету, адчувалі патрэбу ў зносінах з бостваміі. Многія прыродныя з'явы (буры, маланкі, землятрусы, якія неслі ў сабе небяспеку) продкі лічылі праявай іх гневу, таму спрабавалі задобрыць нябачныя магутныя істоты. Яны, як здавалася старажытным людзям, валодаюць вялікай сілай і могуць дапамагчы (напрыклад, падчас палявання або вайны). Людзі маліліся да бостваў спевамі і загаворамі, часта пры гэтым прытанцоўваючы.

Сёння пра навакольны свет вядома нашмат больш, чым у старажытнасці, існуюць навуковыя тлумачэнні многіх прыродных з'яў. Чаму ж вернікі цяпер моляцца?

Перадусім, трэба заўважыць, што хрысціяне (якімі мы з'яўляемся) звяртаюцца не да нейкіх незразумелых бостваў, а да адзінага Бога, які стварыў сусвет і надзяліў чалавека несмяротнай душой. Праз малітву людзі імкнуцца падзякаваць Пану за ўсё добрае, што Ён дае: дар любові і сяброўства, радасць і смех. Просяць Яго аб дапамозе ў штодзённых справах. Але не дзеля таго, каб Усявышні штосьці зрабіў за іх, а каб у саміх з'явіліся сілы і цярпенне для пераадольвання цяжкасцей. Каб усё адбылося так, як таго хоча Бог: па Яго волі, бо Усемагутны ніколі не пажадае свайму стварэнню благога. Людзі таксама моляцца за тых, хто трапіў у бяду або хварэе. Праз гэты ўчынак яны аказваюць духоўную дапамогу патрабуючым. Успамінаюць у малітвах памерлых, каб Бог дараваў ім усе грахі, учыненыя на зямлі, і адарыў вечным святлом на нябёсах.

**Молячыся, кожны чалавек становіцца дабрэйшым, святлейшым і чысцейшым душой.**

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

## Заданне:

**намаляваць руку, кожны палец якой будзе нагадваць пра групу людзей, за якіх неабходна памаліцца.**

**Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**

На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіяне са Смаргоні.

# Ад шчырага сэрца

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Урбановічу і Артуру Валчкевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаю моцнага здароўя на доўгія гады, штодзённай радасці, натхнення, шчодрых Божых ласкаў. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас сваімі дарамі і бласлаўленнем, дапамагае ў святарскай працы, а Маці Божая ахінае мацярынскай апекай, любоўю і ласкай.

*Здзіслаў з парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні здароўя, радасці, доўгіх гадоў жыцця. Няхай Дзіцятка Езус і Яго Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуюцца, ахінаюць цеплынёй сваіх сэрцаў, а побач будуць зычлівыя людзі. Дзякуем за шматгадовую працу ў нашай парафіі, шчырыя і мудрыя казанні. Няхай з твару ніколі не знікае ўсмешка. Шчасці Божа!

*Былыя парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

**Дарагі Ксёндз Здзіслаў Вэдэр!**

З нагоды Дня нараджэння прагнем ад шчырага сэрца і ўсёй душы скласці Вам найлепшыя пажаданні. Няхай Бог адорвае ўсімі неабходнымі дарамі, а жыццё праходзіць у радасці. Няхай Езус вядзе сапраўднай дарогай святарства, якую Вы выбралі, Найсвяцейшая Маці прытуляе да свайго сэрца, абараняе ў цяжкія хвіліны жыцця, а Святы Дух узмацняе душу і цела. Заўсёды памятаем і молімся за Вас.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Каноніку Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: шмат здароўя, бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху, і нязгаснага запалу да працы. Няхай радасць спадарожнічае Вам кожны дзень душпастырскай паслугі, а Святы Дух асвячае шлях і вядзе за Хрыстом.

*З малітвай, удзячныя парафіяне з Забалаці*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Чэславу Паўлюкевічу**

з нагоды Дня нараджэння прагнем скласці мноства гарачых пажаданняў. Няхай кожны чарговы дзень Вашага жыцця будзе прыгажэйшым за папярэдні, поўным любові, веры і даверу. Няхай Вас акружаюць сапраўдныя сябры, якія пададуць руку, калі будзе цяжка. З аптымізмам глядзіце ў будучыню, з радасцю – у мінулае. Жадаем мноства нагод для ўсмешкі, бо яна робіць свет навокал больш каляровым. Жадаем сіл у пакананні штодзённасці, святла Святога Духа ў абвяшчэнні Божага слова, якое трапляе да нас дзякуючы Вам. Шмат шчасця, а значыць блізкасці Езуса, бо толькі Ён дае сапраўднае шчасце!

*З дарам малітвы, удзячныя парафіяне з Росі*

**Шаноўным Генавефе Марцінкевіч, Вандзе Геда, Вераніцы Бурбе**

з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем Божага бласлаўлення на кожны дзень жыцця, нястомнай апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Ваша здароўе будзе моцным, а радасць – штодзённай. Няхай планы рэалізуюцца, а навокал заўсёды будуць добразычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Францішканскі ордэн свецкіх, Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Леону Ладышу**

з нагоды Дня нараджэння, свят Божага Нараджэння і Новага года ад шчырага сэрца жадаем усіх патрэбных ласкаў ад Усемагутнага, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых дароў Святога Духа, развакліваці і моцы ў выкананні святарскай паслугі. Дзякуем за ахвярную працу, добразычлівасць і абвяшчэнне Божага слова. Жывіце ў здароўі і радасці! Няхай Ваша сэрца будзе напоўнена супакоем і любоўю.

*З малітвай, вернікі з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Войстаме*

Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл./факс: **(80152) 756438**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 175 ; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная